БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

# Пейзажы Надзеі Артымовіч

Надзея Артымовіч нарадзілася 18 лютага 1946 г. у вёсцы Аўгустова на Бельшчыне, адкуль ужо летам гэтага ж года яе сям'я пераехала ў Бельск. Тут прайшло яе дзяцінства, тут хадзіла ў пачатковую школу і Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй імя Тарашкевіча. У 1965-1967 гг. штудзіравала русістыку ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку, а ў наступныя гады — беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце, які закончыла ў 1972 г. З гэтага часу Надзея жыве і працуе ў Варшаве, якая стала яе творчай майстэрняй, штодзённым натхненнем і канвой для назіранняў, роздумаў, ацэнак.

Паэтычны дэбют Надзеі Артымовіч адбыўся ў красавіку 1970 г. на ніваўскай „Літаратурнай старонцы“ („Ой, ляцелі гусі“). На працягу шасці гадоў (1970-1975) было надрукавана ў „Ніве“ ўсяго 13 прапанаваных паэтэсай вершаў. Яе ўваход на радзімы парнас доўгі час быў незаўважальным у нашым літаратурным асяроддзі.

Разнастайнымі і дзіўнымі бываюць шляхі тварэння. У выпадку Надзеі Артымовіч пераломным перыядам быў 1976 год, які прынёс раптоўную актывізацыю яе творчых сіл. Можа ўплыла на тое першая рэцэнзія, надрукаваная 11 красавіка 1976 г. у варшаўскім украінскім тыднёвіку „Наше слово“, можа першы аўтарскі вечар, які адбыўся 8 снежня 1976 г. у варшаўскім клубе БГКТ, можа нешта іншае. Пачынаючы ад гэтага часу, з творчай майстэрні Артымовіч выйшлі шматлікія новыя вершы, якіх ужо нямала друкавалася на старонках „Нівы“, у сёлетнім „Беларускім календары“, мінскай „Маладосці“ і іншых выданнях. У пераважнай большасці датычаць яны аднаго з важнейшых і цікавейшых пытанняў нашых дзён, якім з'яўляюцца складаны працэс духоўнай адаптацыі шматлікіх адзінак, якія ва ўмовах паступаючай індустрыялізацыі апынуліся ў бурлівым віры жыцця вялікіх гарадоў. У гэтым кантэксце рэальная адлегласць Бельск — Варшава („Сон уцякае“) з'яўляецца дробяззю ў параўнанні з вялікімі праблемамі прыстасавання да новых умоў. Гэтыя цяжкасці паэтэса асэнсоўвае па-майстэрску, прычым шчасліва пазбягае плыткага сентыменталізму і настальгіі па адыходзячай традыцыйнай вёсцы. У гэтым заключаецца яе істотнае адрозненне ад большасці „белавежцаў“ старэйшага пакалення.



Ужо першыя рэцэнзіі і адгалоскі, якія паказаліся ў друку ў пачатку 1977 г. сведчылі аб разнастайным разуменні і ўспрыняцці паэзіі Надзеі Артымовіч. Крытыкі ўгледзелі перш за ўсё фаталізм, трагізм, катастрафізм, на меру польскага паэта С. Вачэка[1]). Варта заўважыць, што гэтыя ацэнкі абапіраліся на невялікую колькасць яе вершаў, вядомых шырэйшаму кругу чытачоў, і па гэтай прычыне не з'яўляюцца характэрнымі для ўсёй творчасці. Хаця, з другога боку, можна сумнявацца, ці і шырэйшае знаёмства з паэзіяй Надзеі Артымовіч уплыве на змяншэнне крытычнага разнабою. За гэтым прамаўляе алегарычны характар яе творчасці.

Вершы, якія да гэтай пары стварыла Надзея Артымовіч, можна падзяліць на тры тэматычныя цыклы. У першым з іх пад умоўным загалоўкам „Грудка зямлі“ моцна гучаць патрыятычныя матывы, увасабленнем якіх з'яўляецца пакінуты родны кут, зямля дзяцінства. Як трапна пісала каментатар „Нашага слова“ З. Невуліс, „у вершах гэтага цыкла... родная мова, грудка роднай зямлі становяць корань псіхалагічнага існавання, бо, — як заўважае паэтэса, — кожны чалавек калісь знаходзіць сваю крыніцу. Родны горад, матчына хата нагадваюць спакойную прыстань, уцечку ад шумнага жыцця вялікага горада[2]). Вершам гэтага цыкла, як „Мой родны горад“ (гл. Літаратурная старонка № 196), „Грудка зямлі“ (№ 156), „Ёсць тое“ (№ 221), „П'ю прагна“ і іншым, характэрны ідэйны і эмацыянальны зарад, вера і здаровы аптымізм. Па сіле экспрэсіі займаюць яны выключнае месца ў беларусамоўнай літаратуры Беласточчыны.

Значныя мастацкія вартасці прадстаўляе лірыка кахання (цыкл „Мы так блізка сябе“). Аднак найбольш выразна паказала паэтэса свой творчы манер у вялікім цыкле рэфлексійных вершаў „Варшаўскія пейзажы“. Водгук чулай адзінкі на разнастайныя праявы жыцця знайшоў тут шырокае адлюстраванне, як у дыяпазоне праблемаў, так і ў мастацкіх сродках іх выражэння. Ці можна ацэньваць гэты цыкл як акцэптацыю непазбежнага фаталізму, трагізму ў сутыкненні адзінкі з цвёрдай рэчаіснасцю? Напэўна не! Згушчэнне чорных фарбаў, якое наглядаецца ў такіх вершах, як „Ёсць бераг“ (№ 214), „Пейзаж“ і іншых, пераплятаецца тут з пачаткова асцярожнымі акцэнтамі веры і надзеі („Уваходзь ты сонца“ — № 224, „Пазаві мяне“ — № 173), каб урэшце ўспыхнуць моцным акордам упэўненасці перамогі дабра над злом, выліцца ў аптымістычную візію будучыні, што цудоўна загучала ў такіх вершах, як „Не гавары“ (№ 208), „У руках нашых“ (Маладосць № 12, 1977 г.), „І зноў разліецца спакой“ (№ 224) і іншых.

Паэзія Надзеі Артымовіч — цікавая і арыгінальная з'ява на нашай літаратурнай ніве. Важнай яе рысай з'яўляецца перш за ўсё праўдзівасць, шчырасць, што стварае добрыя прадпасылкі для яе ўспрыняцця знаўцамі і аматарамі рэфлексійнай паэтычнай творчасці.

**Юры Туронак**

Фота аўтара

---

[1]) Я. Леанчук, Паэтычны плён „Белавежы“, „Ніва“ 6.03.1977 г. З. Невуліс, II пристрасть — поэзия, „Наше слово“ 16.01.1977 г.

[2]) З. Невуліс, там жа.

## ПЕЙЗАЖ

. . . . . . . . . . заўсёды паміж
клеткай і
жыццядайнай ракой
плывеш аднакрылай птушкай
белы цень апошняга цягніка
як бетон паклаўся на твае вусны
перад табой
як смала
разлілося чорнае святло

. . . . . . . . . .

Тут дарогі няма.
І зямлі няма, што родзіць кветкі
(у дзень нараджэння вецер прыносіць ім смерць)
Зачапіцца тут хоць бы на адну хвіліну
Паглядзець
Азірнуцца

Ты стаіш.
Чуеш толькі трэск попелу
У ботах.
А дзе боль?
Ногі ж крывавяць
і рукі ў забітай крыві...
А дзе боль?
Ціхі плач заснуў...

У твае вочы ўваходзіць
Пейзаж без канцоў
Замыкаеш адно вока
Бачыш...
Закрываеш адно вуха
Чуеш...
А веку чорнаму
Усё мала
бяжыць, ляціць
як дзіцё пакрыўджанае да маці
Хутка, хутчэй...

. . . . . . . . . . . .

Тут дарогі няма.
Дрэвы тут — крыжы магільныя
Песня тут — какафонія звар'яцелая
Крыніца тут — ноч чорная
а людзі — ценямі самотна...
. . . . . . . . . . заўсёды паміж

* * *

*П'ю прагна*
*Як цудадзейнае лякарства*
*Тваё неба*
*мой Бельск*
*Затрымай ты для мяне*
*Свой час*
*І свеціць ясна*
*Тут*
*Мой прамень.*

*Дарую табе*
*Адно маленькае*
*Слова-зярно*
*Зярно*
*Што ўпаўшы*
*На родную зямлю*
*Заўсёды акалосіцца...*

*Салонымі жменямі дажджу*
*Ты абмываеш*
*Чужую вопратку*
*Сваіх дзяцей...*
*Разаграваеш іх скамянелыя*
*сэрцы*
*Адмыкаеш іх зашнураваныя*
*вочы*
*Развязваеш іх спутаныя рукі...*

*Бельск*
*Спалі маё закратаванае*
*акно*
*Выкінь у далёкае мора*
*Мае чорныя сны*
*І тады*
*я буду з табой*
*заплятаць касу*
*дзён і начэй...*

* * *

неспадзявана (так як адыходзяць
людзі)
ударыць сонца ў сэрцы нашыя
боль пякучы з вясной крочыць
у восень
рэальнасць макаў чырвоных
калі праўдзівым дарам неба
чаму рассявае барозны на тваім
чале?
твой спакой
адчыняе дзверы ў круглую хату
хату для кожнага і для нікога
сцежкі ясныя
сцежкі простыя
вядуць нас на апошні начлег
будзем сніць у перашытых вопратках
галодныя
бо родны кут са шчырым хлебам
ужо ў марах толькі
дарог да бацькаўшчыны
не выпрастуем
не пераскочым
у снах галодных можа знойдзем
востраў
раскінем карты ў жартах
запросім музыкантаў і паэтаў
няхай яны маўчаць
няхай хоць раз глянуць
на шчасце малое
што кружыцца ў макавай песні
без слоў

* * *

*раскусваеш слыхам*
*вокам*
*словам*
*сваю зямлю*

*у матчынай крыніцы*
*твае сны*
*і жыццё*

*ёсць дом*
*дзе смерць і вясна*

*іграюць белыя лічбы*
*над табой*

*пад табой*
*сцелецца маўчанне*

*імчыцца імчыцца конь*
*зялёны*

*вадапой*
*з чорным крыжам*

*як перайсці ўсе сцежкі*
*да матчынай крыніцы*

*чужы дзень у віне*
*нерухомы*

*ноч не плыве*

*твая думка*
*завешана на матчынай*
*яблыні...*



## ЭТНАГРАФІЧНАЕ АКЕНЦА



*Колішняя гарадская студня каля ратушы ў Бельску Падляшскім.*
*Фота М. Гайдука.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, дзякуй табе. Пісала я раз свой сон да цябе, і так ты адгадаў, што лепей не трэба.

Сніцца мне ізноў, што я з суседкаю іду ў Беластоку на вуліцы Варшаўскай: насупраць таго дома, дзе стаяць слупы за вуліцай Навоткі, жыве мой старэйшы сын. Я гавару: „Валя, пачакай мяне, я зайду да Валодзі, пагляджу, як ён жыве“. Я ўмомант апынулася на пятым паверсе, але яго дзвярэй не знайшла. Адтуль выйшлі дзеці і сказалі мне, што Скаўронскі жыве ніжэй. Я збегла ніжэй і трапіла проста ў дзверы да сына (ён удавец, памерла яго жонка). У пакоі гарыць свет, але так слаба, як быццам бы ў пакой было напушчана пары. Пасярэдзіне пакоя стаіць скрыпка, а каля яе стаіць мая пакойніца нявестка, але такая страшная, як страх на вераб'і. Я ведаю, што яна памершая, але я яе не баюся. А сын мой сядзіць на зэдліку да пояса нагі. Я сказала: „Дзень добры, як жывеце?“ Сынова мне штосьці адказала, а сын толькі ўсміхнуўся. І я выходжу, гаворачы жартаўліва: „Бывайце здаровы, жывіце багата!“ Сын і сынова скрыліся ў імгле, а я прачнулася.

Сталая твая чытачка са Звяркоў

**Сталая чытачка са Звяркоў!** Твой сон сведчыць аб тым, што твайго сына чакаюць нейкія непрыемнасці. Будзе гэта нейкая вялікая спрэчка ці ўрон для яго ў сувязі з нейкім сходам людзей (скрыпка). Свет у яго пакоі быў вельмі слабы, нібы з парай, сядзеў ён амаль нагі, ды і жонка (хаця пакойніца) была вельмі страшная, а ён разам з ёю скрыўся ў імгле.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я ўжо шэсць год замужам. Маю малую дачушку. Спачатку жылі мы з мужам вельмі добра. Пажаніліся з вялікага кахання. Нічога нам не бракавала. Пры дапамозе бацькоў нажылі ўжо ўласны самаход. Маем таксама добрую кватэру. Здавалася б, што нічога нам ужо не трэба. Але ад нейкага часу штосьці змянілася. Муж стаў іншы, чым раней. Горда да мяне адносіцца, калі кудысьці выйду, яму здаецца, што ўжо яму здраджваю. А найгоршае, штораз больш запіваецца, чаго калісьці амаль зусім не здаралася. Даведалася я, што сябруе з п'яніцамі, а ў кампаніі гэтай ёсць і жанчыны. Дамоў вяртаецца часта позна і пад хмяльком, скандаліць. Жыву аднымі нервамі, ды не толькі я. Дзіця маё стала неспакойнае. Гэтак працягваецца ўжо два гады. Нічога не папраўляецца, а ўсё пагаршаецца. Думала ўжо ўзяць развод. Не магу аднак рашыцца на гэта з увагі на дачку. Ён жа калісь быў вельмі чуллівым бацькам. Гаварыла ўжо мужу аб разводзе, але ён і слухаць не хоча. Абяцае паправіцца. Пару дзён спраўляецца, як калісьці бывала. Дачушка радуецца, а пасля ізноў усё тая самая п'янка і крыкі. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць. Ужо сіл не хапае.

Ліда

Ліда! Мусіш сур'ёзна і становуча пагаварыць з мужам. Толькі тады, калі будзе цвярозы. Становуча патрабуй, каб парваў з кампаніяй, ды па меры магчымасці старайся накіраваць яго на лячэнне ў супрацьалкагольнай парадні. Калі муж не паправіцца, развод будзе выйсцем найлепшым. Інакш патраціце нервы і здароўе і ты і твая дачка.

**Сэрцайка**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЧАМУ АГУРКІ ГОРКІЯ

Гаркавыя агуркі перш за ўсё бываюць каля чаранка. Змяншаецца гаркавасць больш-менш к месцу, дзе прымацоўваецца кветка. Найбольш моцная яна бывае ў слоі 3-5 мм пад скуркай.

Накапленне гаркавасці залежыць ад старэння раслін і ад надвор'я. У старых раслін горкіх пладоў больш, чым у маладых. Працяглае сонечнае надвор'е, раптоўнае рэзкае павышэнне тэмпературы, сухое паветра павялічваюць працэнт горкіх пладоў, а воблачнае надвор'е і асадкі — зніжаюць яго. Рэагуюць расліны на надвор'е праз 5-7 дзён пасля яго змянення. Дослед паказаў, калі ў глебе мала вільгаці, шмат святла і ноччу нізкая тэмпература, атрымліваецца 57 працэнтаў горкіх агуркоў. Пры нармальным паліве, зацяненні і аптымальнай начной тэмпературы гэты працэнт падае да 19. Больш горкіх агуркоў бывае на глінiстай, цяжкай, без арганічных угнаенняў глебе. Часам на накапленне гаркавасці ўпрывае нават размяшчэнне градкі. Доследамі даказана, што на градках, размешчаных на ўсходнім баку гарода, гаркавасць большая, чым на заходнім баку.

Ведаючы ўсё гэта, можна значна знізіць працэнт горкіх агуркоў.

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Толькі пяць бульбін, а паглядзіце на вагу: амаль 3 кг! Такога ўраджаю пажадаць кожнаму гаспадару!*
*Фота В. Рудчыка*

## Куток практычных ведаў




### НА ПЕРШАЕ СНЕДАННЕ

Якая з працуючых жанчын мае час на салiднае снеданне. Трэба ж перш за ўсё накарміць і выправіць у школу дзяцей, мужа на работу, крыху прыбраць у кватэры і прывесці ў парадак сябе. Толькі пасля ўсяго гэтага, можна ўжо, трымаючы ў руцэ ключы, выпіць шклянку малака ці чаю.

А дактары ж сцвярджаюць, што першае снеданне гэта вельмі важная справа. Уплывае яно не толькі на псіхічны стан чалавека (галодны заўсёды хутчэй нервуецца) але і на якасць, на прадукцыйнасць працы. З цэлай лічбы калорый, прызначаных для спажыцця на працягу дня, на снеданне (калі есці чатыры разы ў дзень) павінна прыпасці 20% дзённай нормы. Арганізм чалавека пасля даўжэзнага начнога перапынку і перад пачаткам працы патрабуе неабходнай колькасці энергіі. Важна таксама, з якіх прадуктаў будзем гэтую энергію чэрпаць. Можна з'есці на снеданне дзве булкі з маслам і джэмам, запіваючы салодкім чаем і, нягледзячы на тое, што арганізм атрымаў каля 600 калорый, мы не дамо яму дастатковай колькасці поўнавартаснага бялка, мінеральных соляў і вітамін.

### ТВАРОГ „А“

На 25 дэкаў тварагу трэба ўзяць 4 поўныя лыжкі сцертай на дробнай тарцы морквы, соль, 4 лыжкі смятаны, крыху цукру, лыжку зялёнай пятрушкі.

Тварог расцерці ў місцы, дадаючы па лыжцы смятаны і морквы. Заправіць па смаку соллю, цукрам, можна дадаць крыху лімоннага соку. Зверху пасыпаць дробна пасечанай пятрушкай. Такая паста будзе багата вітамінам А.

### ПАМІДОРНЫ ТВАРОГ

На 25 дэкаў свежага тварагу ўзяць 3 памідоры, соль, перац, лыжку дробна нарэзанай цыбулі.

Тварог расцерці ў місцы, памідоры на пару мінут апусціць у кіпень, пасля чаго зняць скурку і дробна нарэзаць, дадаючы ў тварог разам з соллю і перцам па смаку. Усё разам добра расцерці, уліваючы па меры патрэбы крыху халоднага малака і смятаны. Тварог палажыць на бутэрброды, пасыпаць зверху пасечанай маладой цыбуляй. Масу гэту трэба спажыць адразу, нельга яе пакідаць на пасля.

### НАПІТАК З МАЛАКА І МЁДУ

На 1 літр малака трэба ўзяць 4 лыжкі мёду, крыху лімоннага соку, 3-4 гваздзікі.

У гатаванае з гваздзікамі малако дадаць мёд і добра вымяшаць усё, пакуль мёд не распусціцца цалкам. Можна ўліць, памешваючы, крыху лімоннага соку. Піць напітак гарачым.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Паколькі аўтар кнігі зацікавіўся цяперашнім месцазнаходжаннем некалькіх вялікіх партый трафейнага золата (канфіскацыя якога, як правіла, рабілася афіцэрамі амерыканскіх войск і супрацоўнікамі амерыканскай сакрэтнай службы без асаблівага захоўвання фармальнасцей), ён звярнуўся за кансультацыяй у трохбаковую камісію, спадзеючыся атрымаць адтуль патрэбныя звесткі. Адказ быў ветлівы, але невыразны...

Далейшы лёс гэтай часткі нарабаванага фашыстамі золата невядомы і цяпер. У складзеным тагачасным дзяржаўным сакратаром ЗША Джорджам Маршалам спісе рэпарацый, атрыманых да таго часу ад Германіі, указаныя каштоўнасці адсутнічалі, як і даныя аб золаце, захопленым амерыканцамі.

Можна было б у ліку многіх прывесці і такі прыклад. Яшчэ ў канцы лютага 1945 г. казначэй нацыстаў Вальтэр Функ загадаў схаваць у шахце калійных капальняў „Кайзерода“, размешчаных у адгор'ях гор Рон, каля г. Меркерса вялікую колькасць золата і каштоўнасцей. Гэта частка скарбаў „Рэйхсбанка“ заняла не менш як 24 чыгуначныя вагоны, поўныя зліткаў золата, залатых манет і замежнай валюты. Дырэктар дзяржаўных чыгунак Томс разам з узброенымі да зубоў вартаўнікамі назіраў за тым, як асобая каманда пераносіла каштоўны груз у шахты. Але скарб нядоўга праляжаў пад зямлёй. Уступіўшыя сюды амерыканцы ўжо ў пачатку красавіка 1945 г., устанавіўшы строгую ахову, пачалі работы па дастаўванню схаваных каштоўнасцей. Якое значэнне надавалася гэтай аперацыі, бачна хаця б з таго, што галоўнакамандуючы амерыканскімі войскамі ў Еўропе генерал Дуайт Эйзенхауэр асабіста кіраваў ёю. З меркаванняў сакрэтнасці немцы прыцягваліся да работ толькі ў выключных выпадках, ды і то так, каб аб многім яны даведацца не маглі. Але адзін з мясцовых жыхароў, які ўдзельнічаў у работах, усё ж бачыў, як амерыканцы на магутных грузавіках адправілі значную частку каштоўнага грузу ў напрамку Франкфурта-на-Майне.

Ніхто не можа сказаць, куды пайшло гэта золата — у кішэні сквапных да здабычы амерыканскіх афіцэраў, ці ў казну амерыканскай арміі і некантралюемые фонды сакрэтнай службы ЗША, ці ў запасы маўклівай трохбаковай камісіі, ці паслужыла для залатой ін'екцыі, якая стымулявала жыццядзейнасць заходнегерманскай прамысловасці, калі ў 1948 г. Заходняя Германія была ўключана ў „план Маршала“.

Такім чынам, маўчанне трохбаковай камісіі ўваходзячых у яе састаў урадаў заходніх дзяржаў у канчатковым выніку дапамагае заходнегерманскім імперыялістам пазбегнуць кантролю над пэўнымі трансакцыямі з утоенымі часткамі нацысцкага разбойніцкага багацця а таксама маскіраваць іх у далейшым. Зусім невыпадкова, што іменна тыя, хто першым наклаў руку на гітлераўскі залаты скарб, сталі першымі, а потым і самымі заўзятымі абаронцамі і прыхільнікамі рэмілітарызацыі Заходняй Германіі. Гэта датычыць Эйзенхауэра, Маршала і многіх іншых прадстаўнікоў амерыканскага імперыялізму.

### ЗАХОДНЕГЕРМАНСКАЯ „КОЗА НОСТРА“ ЗАНЕПАКОІЛАСЯ

17 ліпеня 1959 года на адасобленым горным возеры Топліц (Аўстрыя) мясцовыя жыхары заўважылі плыт. Спачатку яны падумалі, што гэта проста заходнегерманскія турысты, якія захацелі агледзець возера. Здагадка была амаль правільная, але не зусім. Хутка над плытам з'явіўся рэкламны шчыт гамбургскага ілюстраванага часопіса „Штэрн“.

На беразе, дзе да таго ніколі не дазвалялася ствараць кэмпінгі, цяпер размясцілася група рэпарцёраў рэдакцыі „Штэрн“. Яны разбілі палатку, наладзілі імправізаваную стаянку для аўтамабіля і нават развесілі знакі, якія забараняюць праезд аўтамашын. Такім чынам, філіял рэдакцыі „Штэрн“ адчуваў сябе на зямлі аўстрыйскага федэральнага лясніцтва, як у сябе дома. У састаў экспедыцыі, якую фінансаваў выдавец часопіса Герд Буцэрыус, дэпутат бундэстага ад ХДС (ён выдзеліў на яе 25 тысяч марак), уваходзілі таксама і прадстаўнікі міністэрства ўнутраных спраў заходнегерманскай зямлі Гесен, што надавала ўсёй задуме пэўны афіцыяльны характар. Рэпарцёры „Штэрна“ паведамлялі кожнаму сустрэчнаму, што маюць намер вырваць у возера Топліц тайну схаваных на яго дне скарбаў, так сказаць, узламаць яго падводны сейф. Кіраўніком гэтай групы і галоўным „следапытам“, які прагнуў знайсці сенсацыйны матэрыял для часопіса, быў нейкі Вольфганг Лёдзе. Аж да самага канца вайны ён служыў у гітлераўскім ваеннамарскім флоце, а затым пачаў сваю рэпарцёрскую кар'еру ў „Штэрне“.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВІНШУЕМ!

У сувязі са святам Адраджэння нашай дзяржавы найбольш заслужаныя людзі ў гміне Нараўка атрымалі высокія ўзнагароды. Крыж Кавалерскі ордэна Адраджэння Польшчы атрымаў Мікалай Пташынскі з Міхнаўкі. Сярэбраныя крыжы заслугі — Мікалай Зубрыцкі з Гушчэвіны і Янка Трусевіч з Міклашэва. Бронзавыя Крыжы Заслугі атрымалі Вера Бароўская — працаўнік гміны, Аркадзь Гарустовіч — фельчар і Баляслаў Сек — кіраўнік загса.

**А. З.**

## Пад старымі дубамі

У Грушках ля Нараўкі ёсць прыгожае месца пад старымі дубамі ля рэчкі. Яно добра загаспадарана. Тут штодзённа адпачывае шмат моладзі.

Гмінныя ўлады ЗСМП у Нараўцы наладзілі тут навучальна-адпачынковы біваж. Актывісты арганізацыі сустрэліся з сакратарам гміннага камітэта партыі, кіраўніком пажарнай стражы і іншымі дзеячамі гміны. Моладзь разважала такія тэмы, як „30 год ЗМП", „Кожны колас на вагу золата", „Задачы далейшай працы". Адбываліся спартыўныя і культурныя мерапрыемствы. Выступаў інструментальны калектыў мясцовага ГОКу.

**А. З.**

## Прыемная сустрэча

У канцы ліпеня, у доме культуры „Калеяж" у Чаромсе, адбылася нештодзённая ўрачыстасць. Прынялі ў ёй удзел шлюбныя пары з нагоды 25-гадовага і 50-гадовага супольнага жыцця. Першых было 27 пар, а другіх — усяго дзве з усёй гміны. Гэта Мікалай і Ганна Сцепанюкі з Палаўцоў і Мар'я і Васіль Стэльмахі з Апакі.

Ад імя гміннага камітэта ФАН і гміннай рады, юбілярам былі ўручаны памятныя дакументы. Іх уручылі старшыня ГК ФАН тав. Тадэуш Кастоўскі і начальнік гміны мгр інж. Мікалай Тэлентэюк. Як адзначыла працаўніца гміны (і галоўны арганізатар сустрэчы) Гэлена Крычка, усяго некалькі пар не прысутнічала. Хутка і прыемна прайшоў час. Многа было ўспамінаў, у некаторых нават паказаліся слёзы ў вачах ад усхвалявання.

На заканчэнне сустрэчы ўдзельнікі шчыра падзякавалі арганізатарам за памяць аб іх і за падрыхтоўку такога цікавага мерапрыемства.

**(ус)**




### СУСЕДКА

*У нас суседка маладая,*
*Да работы баявая,*
*Язык мае як лапату —*
*Лямантуе на ўсю хату.*

*А калі муж адазвецца,*
*То суседка затрасецца,*
*Вось тады бяда і гора,*
*Хоць ўцякай ужо за мора.*

*Кажуць людзі: „Тая Манька —*
*Лапатуха, горш, як сванька,*
*Што дзе чуе — перакруціць*
*І мужыка за вушы круціць".*

*Апанасам мужа звалі,*
*Усе яго паважалі,*
*Цераз Маньку-лапатуху*
*Ён не мае цяпер другаў.*

*Як суседка загаворыць,*
*То ужо для Манькі гора,*
*Крычыць: мужа адбівае,*
*Сукай бабу называе.*

*Калі муж пайшоў у краму*
*Выпіць піва, ці сто грамаў,*
*Бяжыць Манька ў хвост за мужам:*
*Ты тут п'еш, а я не дужа!*

*Вось такую жонку меці —*
*Бяда мужу, бяда дзецям,*
*Іх суседзі абмінаюць,*
*Траплом Маньку называюць.*

**М. Лук'янюк**

## Вада ў падвалах

У жылых блоках 48 і 48/А на вул. Міцкевіча ў Бельску стаіць вада ў падвалах. Гэта вынік дрэнна выкананай будовы. Блок № 48 мае падвал надта глыбокі, няма добрай ізаляцыі. На дабавак ранняй вясной пачалі будаваць па-суседску іншы будынак — краму і каля фундамента будынка № 48 выкапалі глыбокую і доўгую яму, у якую збіраецца вада і прасочваецца ў падвал. Будынак № 48/А наогул не мае ніякай бетоннай абудовы. Па гэтай прычыне па трубах льецца вада на пясок, а адтуль простая дарога ў падвал.

Жыхары вельмі крыўдзяцца на гэты стан, паколькі ўсё ў падвалах гніе, іржавее і няма да нічога доступу. Выкачка вады, якую практыкуе да гэтай пары кіраўніцтва камунальнай гаспадаркі, не дае вынікаў, бо вада няспынна льецца ізноў. Прафесіяналы аднак павінны справу вырашыць.

**А. М.**

## Будуюць хлявы

ПГР у Крынках спецыялізуецца ў гадоўлі авечак мерыносаў. Пасля 1980 года плануецца гадаваць тут больш дванаццаці тысяч авечак. Будуць пабудаваны ў трох месцах аўчарні: у Юраўлянах, Гурцы і паміж Шудзялавам і Паўночным Вострвам.

Паміж Шудзялавам і Паўночным Вострвам пры шашы ў пачатку вясны распачалася будова хлявоў-аўчарняў на паверхні шасці гектараў. Ужо ў сырым стане пабудавана шэсць хлявоў, адміністрацыйныя і гаспадарчыя будынкі і склады.

**Гіль**

### АБ ПОМНІКАХ СТАРАДАЎНАСЦІ

Яшчэ ў некаторых вёсках ветракі (ветраныя млыны) стаяць, хаця даўно ўжо пераcталі служыць людзям. Пераважна ў канцы вёскі, на ўзвышшы, куды лепш вецер даходзіць. Дагніваюць яны! А ёсць сярод іх і старэйшыя, якія можна залічыць да помнікаў старадаўнасці, і варта, каб такія ветракі ўзялі пад апеку і адрамантавалі.

Як прыгожа, калі вёска мае такі стары млын! Кожнаму кідаецца ў вочы, як калісьці людзі „прыручалі" прыроду служыць сабе. У недалёкім Грабаўцы стаяць два ветракі — дагніваюць. Варта зацікавіцца імі і ацаніць іх.

**М. Панфілюк**

### НА КАНІКУЛАХ

На канікулах у сяло Крывяцічы з'язджаецца многа моладзі, якая вучыцца ў розных школах. Каб весела і прыемна правесці вольны час, моладзь арганізуе ў суботы і нядзелі ў мясцовай святліцы танцы. Прыязджаюць сюды маладыя людзі з Орлі, Мора, Старога Корніна, Збуча, Махнатага.

**Іван Кірызюк**

### ЧАМУ ЗАНЯДБАЛІ?

Мураваны будынак школы ў Галадах стаіць пусты ўжо каля пяці гадоў. Ніхто яго ніяк не выкарыстоўвае. Дойдзе да таго, што ён развaліцца. А бібліятэка і пошта ў вёсцы змяшчаюцца ў прыватных хатах.

Чаму ж бы не перастаць плаціць за прыватныя кватэры, а гэтыя дзяржаўныя ўстановы перавесці ў дзяржаўны будынак былой тутэйшай школы?! Гэтую прапанову кіруем уладам гміны.

**Румі**

Запіскі натураліста

## Назіранні ў даліне ракі

Што можа быць больш цікавае, як сляды жыцця ў выглядзе акамянелых арганізмаў, слядоў перамяшчэння, жыццядзейнасці і ўсялякага роду метамарфозу жывых некалі арганізмаў (мал. 1 — злепак грунту пасля адгніўшых карэнняў дрэў)? Усе гэтыя пытанні цесна звязаны з экалагічным асяроддзем існавання арганізмаў галацэна — цяперашняга цёплага перыяду, калі можа развівацца нармальнае жыццё перад наступным абледзяненнем Зямлі.

У рачных далінах, у месцах невялікіх упадзін, старарэччах, звычайна адбываецца забалочванне тэрыторыі, зарастанне лугавой гідрафільнай — вадалюбнай раслiннасцю. А ў астатняй фазе развіцця ствараецца торф. Пры змыванні грунту дажджом і разліваў ракі ў час паводак у гэтых старарэччах і катлавінах даліны адбываецца асаджванне часцінак грунту — гліны, пылу і пяску. Калі ў гэтыя катлавіны і старарэччы пападуць нейкія арганізмы расліннага або жывёльнага паходжання, тады ў сувязі са сваім саставам тарфяной масы, дзе арганічныя кіслоты дзейнічаюць кансервіруюча, пры адсутнасці свабоднага кіслароду, адбываецца ў гэтых умовах захаванне арганізмаў на цэлыя геалагічныя эпохі. Папаўшыя туды рыба (мал. 2), малюскі — Unopictorum (мал. 3), або слімакі planorbis sp., Limnaea st.; Helix pom. (мал. 4-6) застаюцца тут на мільёны гадоў, пераходзячы часткова ў акамянеўшы стан.

Раслiннасць падлягае працэсам акамянення, або ўглефікацыі. Акамянеўшыя дрэвы ў ваколіцах сяла Плюцічы на рацэ Нарве назіраў праф. др Базылі Чэчуга, навуковыя працы якога вядомы ва ўсім свеце.

Пры акамяненні адбываецца замена клетак на неарганічныя спалучэнні, а пры ўглефікацыі — з арганічных элементаў застаецца толькі вугаль у форме адбіткаў, найчасцей на гліне. Усе гэтыя працэсы адбываюцца пры нармальнай ўзаемадзейнасці ў акружаючым экалагічным асяроддзі. Але, калі рака будзе атручана, ніякая рыба ці малюскі не змогуць папасці ва ўмовы вечнага захавання, па прычыне іх адсутнасці. Мае назіранні на тэрыторыі Бельска і яго ваколіц пацвярджаюць гэта. Рака Белая і ўліваючаяся ў яе рака Любка пазбаўлены жыцця. Яны атручаны сцёкамі з ільназавода (рашарні) і часткова ад малачарні.

14.IV.1978 г. камісія саюза рыбакоў г. Бельска праверыла стан рэк і ачышчальных установак прамысловых прадпрыемстваў і камунальнай гаспадаркі. Аказалася, што ільназавод з'яўляецца галоўнай крыніцай забруджвання рэк, бо апрача адстойнікаў нічога ў іх няма. Малочны завод мае добра працуючую ачышчальню. Але тут адбываецца толькі акісленне арганічных астанкаў. А што робіцца з хімічнымі спалучэннямі — гэта невядома. Ёсць даныя, што рыба паступова прыстасоўваецца да некаторых хімічных спалучэнняў у вадзе і можа жыць, але такая рыба не прыдатна для яды, што й назіраецца на р. Рэйн у ФРГ.

Ступень забруджання вады можна даследаваць і без лабараторыі, па прысутнасці арганізмаў (мал. 7). У сувязі з гэтым прыдалося б арганізаваць у школах і ліцэях гідрабіялагічныя гурткі Лігі аховы прыроды, разам са сценгазетай „Юны натураліст". Вучні змогуць акрэсліваць чысціню вады, назіраючы за станам жывых арганізмаў у вадзе — расліннных і жывёльных. Усе такія пачынанні дзейнічаюць выхаваўча. Аб гэтым трэба падумаць адпаведным установам асветы і Лігі аховы прыроды.

**Інж. Б. Ф. Руткоўскін**




### ЦІ СПРАВЯДЛІВА?

Жыхарка Чаромхі Н. П. прыкмеціла, што яе электрычны лічнік сапсаваны (вельмі нагрэўся) і пагражаў небяспекай пажару. Яна паведаміла аб гэтым кляшчэлеўскім электраманцёрам. Доўга не трэба было чакаць спецыялістаў. Аднак якое ж расчараванне было, калі электраманцёры заявілі, што гэта не ў іх кампетэнцыі. „А каго ж мне трэба было паклікаць, каваля?" — са злосцю запытала жанчына. „Маеце сваіх электраманцёраў, — адказалі тыя і накіраваліся ў машыну.

Не памаглі ніякія просьбы. Спецыялісты паехалі, а лічнік надалей застаўся сапсаваны. Паехала Н. П. шукаць прыватнага электраманцёра. Адзін адмовіўся, а другі прыехаў і паправіў. Ды гэта паслуга каштавала Н. П. столькі, што саромілася нават мне прызнацца. Ці гэта справядліва? Ці так павінны пастyпаць дзяржаўныя працаўнікі паслуговых пунктаў? Мне здаецца, што нікому не хочацца выкідаць лішніх грошай. А ў гэтым выпадку кляшчэлеўскія электраманцёры не толькі не выканалі сваіх службовых абавязкаў, але выставілі на кошт Н. П. (аварыя лічніка не была з віны Н. П.). Дрэнны гэта прыклад і не павінен ён больш паўтарыцца.

**(ус)**

### ВЕСТКІ З БЕЛЬСКАГА ВСС

У былым сяле Студзіводы, што ўключана цяпер у абшар горада Бельска, „Сполэм" ВСС у Бельску адкрыў гандлёвы павільёнік тып „UNO". Будавала яго будаўнічая брыгада, якая існуе пры ВССе. Павільёнік забяспечаны добра прадуктамі і напіткамі. Жыхары Студзіводаў задаволены, цяпер не трэба ездзіць за пакупкамі ў Бельск.

* * *

У Бельску на вуліцы Сцягеннага бельскі ВСС „Сполэм" выгаспадарыў памяшканне, у якім будзе адкрыты пункт прыёму бялізны і вопраткі ў хімічную чыстку. На гэтай жа вуліцы, толькі ў іншым будынку, будзе адкрыты пункт, у якім жыхары змогуць мaглявaць бялізну.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „БЕЛАВЕЖСКІЯ БАЛЯЧКІ", „Ніва" № 27/1166 ад 2 ліпеня 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W BIAŁOWIEŻY.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Białowieskie bolączki" z 27/1166 numeru tygodnika „Niwa" Urząd Gminy w Białowieży informuje:

Z przykrością musimy stwierdzić, iż powtarzające się awarie miejscowego wodociągu utrudniają normalne funkcjonowanie zakładów pracy, placówek naukowych i instytucji, a także pozbawiają wody mieszkańców Białowieży. Pomimo wykonania przeglądu hydroforni nie stwierdzono w niej zaniedbań, które mogłyby być przyczyną awarii. Brak wody powodowany jest brakiem urządzeń zapasowych i awaryjnej studni. W celu zlikwidowania tej „bolączki" Urząd Gminy już w miesiącu kwietniu br. podjął działania dążąc do zakupu zapasowych pomp i rozpoczęcia budowy studni awaryjnej. Dzięki przychylności władz wojewódzkich w lipcu br. rozpoczęto budowę studni awaryjnej. Zakończenie tej budowy i oddanie do użytku nastąpi w I kwartale 1979 roku. Istnieją natomiast kłopoty w zakupie nowych pomp. Pomimo złożonego zamówienia do Biura Sprzedaży Pomp i Aparatury Przemysłowej — wydelegowano pracownika do Gliwic w tej sprawie i nie udało się nam dotąd zakupić nowej pompy. W/w Biuro przyjmuje zgłoszenia do realizacji w roku przyszłym. Na terenie Białowieży istnieje hydrofornia o mniejszym zasięgu w Nadleśnictwie Białowieża. Decyzją Naczelnika Gminy zobowiązano Nadleśnictwo do wykonania remontu tej hydroforni. Pomimo wysłanego przez Nadleśnictwo zlecenia na remont w/w urządzeń w miesiącu marcu, dotąd Zakład Usług PKUM w Białymstoku nie przystąpił do wykonania zleconych prac. Jednocześnie wyjaśniamy, że na terenie gminy nie ma brygady wyspecjalizowanej w usuwaniu awarii. Dotychczasowe usterki usuwane były sposobem gospodarczym w ciągu dwóch dni. Natomiast wykonywanie w/w prac przez powołaną w tym celu brygadę PKUM w Białymstoku jest bardzo kosztowne i trwa 5—7 dni.

Pragniemy zapewnić, że sprawa wodociągu jest traktowana przez nas jako bardzo ważna i pilna oraz że dołożyliśmy wszelkich starań, by skutecznie zapobiegać powstającym awariom.

Odpowiadając na kolejny „zarzut" podnoszony w artykule pragniemy wyjaśnić, że we wsi Podolany został zorganizowany od 1 lipca punkt przyjmowania i dowożenia mleka.

Uważamy również, że wyznaczenie placu targowego na sprzedaż warzyw jest zbyteczne, ponieważ na terenie gminy nie ma producentów warzyw i owoców. Co pewien czas natomiast przyjeżdża samochód z innej gminy, z którego sprzedawane są warzywa. W bieżącym roku planuje się wybudowanie krytych straganów sposobem gospodarczym, w którym sprzedawane będą wyroby pamiątkarskie. Jeden z takich straganów przeznacza się na sprzedaż warzyw i owoców.

w/z Naczelnika Gminy
mgr inż. Halina Kuprel
Sekretarz Biura

